# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 2 (612)
Люты 2017 г.


# Антон ШУКЕЛОЙЦЬ
## (19.07.1915 – 07.01.2017)



У суботу 7 студзеня 2017 года ў Нью-Ёрку адыйшоў у вечнасьць выбітны дзеяч беларускай грамады ў Амэрыцы сп. Антон Шукелойць.

Антон Шукелойць нарадзіўся ў 1915 годзе на Ашмяншчыне (хутар Якелёўшчына) у сялянскай сям’і. Ён атрымаў адукацыю ў Ашмянскай гімназіі й Віленскім унівэрсытэце імя Сьцяпана Батуры. У 1931 годзе ён браў удзел у перапісе насельніцтва, падчас якога поруч з аднадумцамі – беларускімі гімназістамі – запісваў нацыянальнасьць не па “мове пацераў”, а па мове штодзённага ўжытку. Вынік па Ашмянскім павеце не спадабаўся тагачасным польскім уладам, і Антон Шукелойць быў пакараны адтэрміноўкаю матуры на год. Гэтую падзею сп. Шукелойць лічыў пачаткам сваёй нацыянальнай і палітычнай дзейнасьці. Паступіўшы ў Віленскі ўнівэрсытэт, сп. Шукелойць займаўся вывучэньнем беларускай этнаграфіі, сьпяваў у студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, быў сябрам партыі беларускіх эсэраў. У студэнцкія часы працаваў ва ўнівэрсытэцкім этнаграфічным музэі, выяжджаў для збору матэрыялаў у розныя мясьціны Віленшчыны.

У 1939—1941 гг. ствараў беларускія школы на Ашмяншчыне. Быў школьным інспэктарам-мэтадыстам і настаўнікам беларускай сярэдняй школы. Выбіраўся дэпутатам гарадзкога савету. На самым пачатку вайны ён быў арыштаваны як “ненадзейны антысавецкі элемэнт”, трапіў у турму ў Вялейцы, пасьля быў перакінуты ў Крупкі. Падчас налёту нямецкай авіяцыі яму ўдалолся ўцячы.

У пэрыяд нямецкай акупацыі сп. Шукелойць знаходзіўся ў Менску, браў удзел у спробах наладжваньня беларускіх арганізацыяў і беларускага культурніцкага жыцьця. Працаваў у аддзеле культуры і асьветы гарадзкой управы, у архіве ЗАГСу, быў дырэктарам гістарычнага музэю. Ён меў непасрэднае дачыненьне да ўратаваньня славутай іконы Маці Божае Менскае, якая была неўзабаве адрэстаўраваная мастаком Віерам і перададзеная духовым уладам у катэдральны сабор у Менску. Ён загадваў аддзелам краязнаўства ў Беларускім Культурным Згуртаваньні і быў школьным інспэктарам пры аддзеле адукацыі Беларускай Цэнтральнай Рады. Быў удзельнікам Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску ў 1944 годзе.

У 1944 годзе сп. Шукелойць выехаў у Нямеччыну, дзе пасьля вайны працаваў у школах пры лягерох перамешчаных асобаў (дыпі), імкнуўся адшукаць сьляды вывезеных нацыстамі зь Беларусі культурных каштоўнасьцяў. Вывучаў археалёгію ва ўнівэрсытэце UNRRA і Вольным украінскім унівэрсытэце ў Мюнхэне.

У 1952 годзе пераехаў у ЗША, дзе актыўна удзельнічаў у розных беларускіх арганізацыях Нью-Ёрку і ваколіцаў, у працы Рады БНР, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Фундацыі Крэчэўскага і рэдакцыі газэты “Беларус”. У 1975—2007 гг. сп. Шукелойць узначальваў Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). Працяглы час ён быў сябрам рэдкалегіі газэты “Беларус”. Напрыканцы 1960-х — пачатку 1970-х гг. быў дырэктарам беларускай школы ў Нью-Ёрку.

Ён быў аўтарам шматлікіх артыкулаў, успамінаў, нэкралёгаў, што былі апублікаваныя ў газэтах “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Быў сябрам Рады БНР і сябрам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, быў вялікім прыяцелем Беларускага-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” і браў удзел у шматлікіх імпрэзах арганізацыі.

Управа Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” смуткуе з нагоды сьмерці заслужонага дзеяча беларускай грамады ў Злучаных Штатах.

***Віталь ЗАЙКА***

# Студзеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 14-га студзеня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы студзеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку старшыня сп. Віталь Зайка паведаміў пра сыход з жыцьця выбітнага дзеяча беларускай грамады ў Амэрыцы, прыяцеля Згуртаваньня “Пагоня”, шматгадовага старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антона Шукелойця. Ягоная памяць была ўшанаваная хвілінай цішы. Затым сп. Зайка распавёў для тых, што першы раз прыйшлі на сход, пра мэты, прынцыпы, а таксама пра дзейнасьць Згуртаваньня “Пагоня”. Ён адзначыў, што “Пагоня” зьяўляецца грамадзкай арганізацыяй і займаецца культурніцкай, палітычнай і дапамаговай дзейнасьцю, імкнецца аб’ядноўваць беларусаў, асабліва моладзь, што апынулася ў Злучаных Штатах.

Пасьля з гутаркай пра досьвед выбару спэцыяльнасьці й пошуку працы ў Амэрыцы выступілі прамоўцы, што пагадзіліся падзяліцца сваімі ведамі ў межах сэрыі сэмінараў, што сталі традыцыйнымі для сходаў “Пагоні”.

Першым выступіў сп. Анатоль Цяценькін. Ён распавёў пра сябе, свой занятак да пераезду ў ЗША, што быў танцорам і шмат езьдзіў па сьвеце пакуль не атрымаў траўму. Цяпер ён займаецца продажамі праз сеціва і зьяўляецца трэйдарам – гандляром акцыямі. Сп. Цяценькін распавёў пра агульныя прынцыпы выбару прафэсіі й пошуку працы, якія ён сам для сябе засвоіў, і якія, на ягоную думку, могуць быць карысныя тым, хто пачынае сваё “працоўнае жыцьцё” ў ЗША. “Часта людзі, што прыяжджаюць, бяруцца за працу, якая трапляецца першай, потым яна засмоктвае, чалавек прызвычайваецца да яе. Трапіўшы ў такую “зону камфорту” – старайцеся выйсьці зь яе. Для гэтага трэба матывацыя, вера ў сябе і – веды.” Сп. Цяценькін распавёў, што ён мае дзьве інтэрнэт-крамы, на *amazon* і *ebay*. Гэта досыць прыбытковы бізнэс, у сеціве тысячы й мільёны пакупнікоў, і, уклаўшы, невялікую суму, можна ў досыць кароткі тэрмін вярнуць інвэставаньне ў 5-6 кроць. Выбар галіны продажаў залежыць ад вас, гэта можа быць касмэтыка, ювэлірныя вырабы, музычныя інструмэнты ці што яшчэ, але, безумоўна, найлепш заняцца тым таварам, у якім вы разьбіраецеся. І хіба найпрыбытковым гандлем ёсьць гандаль акцыямі. Набіўшы руку і разабраўшыся ў шчыгулах гандлю, можна дасягнуць узроўню заробкаў 5-6 тысячаў у месяц, працуючы ўсяго 2-3 гадзіны на дзень. Для гэтага пажадана скончыць школу трэйдараў, але ў сеціве ёсьць шмат дапаможных фільмаў, якія дадуць ідэю, як падступіцца і з чаго пачаць. Сп. Анатоль Цяценькін адказаў на пытаньні прысутных і пагадзіўся прыватна адказаць на ўсе асабістыя звароты.



Анатоль Цяценькін

Затым слова ўзяў сп. Раман Стэфановіч, ён скончыў юрфак БДУ ў Менску. У ЗША перш жыў у Маямі, займаўся кансалтынгам і цяпер зьяўляецца агентам па нерухомасьці, спэцыялізуецца на фліпінгу – пакупцы й продажы дамоў, якія адбіраюцца банкамі за даўгі, рэалізуюцца з аўкцыёнаў, рамантуюцца пакупнікамі з мэтаю далейшага продажу. Але акцэнтам свайго выступу сп. Стэфановіч зрабіў пытаньне прафэсійнай адаптацыі спэцыялістаў зь Беларусі ў прававой сфэры. Ён адзначыў адрозьненьні паміж ліцэнзаваным юрыстам і проста юрыстам, што мае прававыя веды, але ня мае ліцэнзіі. Такім чынам, пытаньне ва ўзроўні адукацыі. *Bachelor* гэта яшчэ не юрыст, а *Master of Law* хоць і юрыст, але ня мае права практыкаваць, бо мусіць яшчэ здаць экзамэн на адваката, *the bar exam*. Дзеля таго што беларускія юрыдычныя дыплёмы не настрыфікуюцца ў ЗША аўтаматычна, трэба ведаць пасьлядоўнасьць крокаў, як скарыстаць свой наяўны дыплём, і якія дадатковыя меры трэбы прыняць. У асноўным усё адбываецца праз набыцьцё ступені майстра права, якую можна здабыць за год. Кашт, прыкладна, 45 тыс., у залежнасьці ад навучальнай установы, але часта са свае кішэні давядзецца выкласьці значна меней, падаўшы на фінансавую дапамогу, ска-



Раман Стэфановіч

рыстаўшы стыпэндыі й пазыкі. Затым выступоўца падрабязна спыніўся на працэдуры паступленьня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы ЗША і пасьлядоўнасьці *bar exam*. Выступоўца адказаў на пытаньні прысутных і пагадзіўся прыватна пагутарыць з усім жадаючым.

Сп. Віктар Едзіновіч распавёў пра свой досьвед пошуку спэцыяльнасьцяў і працы на гарадзкую адміністрацыю Нью-Ёрку. Ён адзначыў, што некаторыя добра аплочваныя спэцыяльнасьці не патрабуюць шмат падрыхтоўкі і ёсьць прывабныя ў пляне заробку і пэнсыйнага забясьпечаньня. Трэба выбіраць спэцыяльнасьці больш знаёмыя канкрэтнай асобе, потым перагледзець расклад іспытаў па пажаданых спэцыяльнасьцях. Іспыты і падрыхтоўка да іх звычайна нескладаныя, існуюць курсы і розныя дапаможнікі. У сеціве, а таксама ў прафсаюзнай газэце “The Chef”, можна знайсьці расклад іспытаў на бягучы год. Пасьля праходжаньня іспыту чалавек ставіцца ў чаргу ў залежнасьці ад выніку і чакае выклік на працу. Часам гэта можа быць некалькі тыдняў ці месяцаў, часам – некалькі год, у залежнасьці ад спэцыяльнасьці й выніку іспыту. Сп. Едзіновіч распавёў пра свой досьвед сацыяльнага работніка і асаблівасьці працы з асобамі, якім патрабуецца сацыяльная дапамога па разнастайных праграмах. Сп. Едзіновіч адказаў на пытаньні прысутных.

Затым у разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб’явы й паведамленьні, адбыліся знаёмствы з гасьцямі сходу, пасьля чаго ў неафіцыйнай атмасфэры прысутныя мелі нагоду калегавацца зь землякамі пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Канцэртны тур Лявона Вольскага ў Амэрыцы

Ukанцы насычанага і прадуктыўнага 2016 года, заснавальнікі беларуска-амэрыканскага праекту "Dzed Baradzed" пры падтрымцы Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" арганізавалі, да гадавіны заснаваньня праекту, канцэрт вядомага беларускага рок-музыкі Лявона Вольскага (падрабязна ў №1 (611).

Пасьля людната і пасьпяховага канцэрту ў Нью-Ёрку 11 сьнежня летась на наступны дзень легендарны музыка выступіў з канцэртам у сталіцы ЗША. Безмоўна, фармат выступу ў Вашыгтоне значна адрозьніваўся ад ньюёркскага. Гэтая падзея там зацікавіла, як беларускую, так і амэрыканскую аўдыторыю. Сустрэча зь Лявонам Вольскім адбылася ў Нацыянальнай Фундацыі за Дэмакратыю (National Endowment of Democracy). Напачатку ў беларускага музыкі ўзяў інтэрвію венгерскі дыплямат Андрас Сымоный, сам у мінулым рок-музыка. Усе пытаньні, што ён задаваў, былі на тэму ролі незалежнага мастацтва і культуры ў кантэксьце барацьбы за дэмакратыю ў Беларусі. Першыя 10 хвілін атмасфэра была досыць афіцыйная, але хутка напружанне спала, і аўдыторыя шчыра дзякавала воплескамі беларускаму выканаўцу. Прагучалі найбольш папулярныя гіты сольнай творчасці Лявона і вядомыя песьні гурта "NRM". Пасьля выступу амэрыканцы стаялі ў чарзе па дыскі сьпевака.

Другі міні-канцэрт Лявона Вольскага ў сталіцы Злучаных Штатаў адбыўся 14 сьнежня на кватэры Франака Вячоркі. Па словах прысутных, кватэрнік атрымаўся вельмі душэўным. У той вечар прыйшлі выключна беларусы, што жывуць і працуюць ў Вашынгтоне, якія даўно не зьбіраліся разам з такой выдатнай нагоды, як прыезд беларускай зоркі.

Наступным горадам у гэтым туры быў "Чыкага, і толькі Чыкага". Беларуская грамада ў халодным і ветраным горадзе на беразе вялізнага Мічыгана вельмі цёпла і шчыра сустракала доўгачаканую рок-зорку . Канцэрт адбыўся ў грамадзкай залі царквы сьв. Юра. На канцэрт, не зважаючы на сьнежны буран, прыехалі беларусы зь Мінэсоты і Вісконсына.

Кожны з гэтых амэрыканскіх горадоў уразіў беларускага музыку па-свойму, і перад кожным выступам ён хваляваўся, каб аўдыторыі спадабаўся ягоны выступ. Шчырасьць сьпевака і ягоную адкрытасьць немагчыма не адзначыць. Вельмі б хацелася, каб наш выбітны музыка часьцей наведваў ЗША са сваімі канцэртамі.

Ад імя арганізатараў праекту "Dzed Baradzed" я хачу падзякаваць Беларуска-Амэрыканскаму Згуртаваньню "Пагоня" за дапамогу і падтрымку, асабліва сп. Віталю Зайку, а таксама сп-ву Сокалавых (Сяржуку, Ганьне, Сьветавіду, Славаміру).

Дзякуючы высілкам нашых землякоў, а менавіта, супрацоўніцы Нацыянальнай Фундацыі за Дэмакратыю Вользе Тарасавай, грамадзкаму актывісту і журналісту Франаку Вячорку і заснавальніцы інтэрнэт-плятформы *kyky.org* Дар'і Муцявінай, адбыўся канцэрт Лявона Вольскага ў Вашынгтоне.

Шчыры дзякуй беларускай грамадзе ў Чыкага за арганізацыю канцэрта ў іхным горадзе, а асабіста сп-ні Жане Чарняўскай.

Сачыце за навінамі і новымі імпрэзамі ў фэйсбук-суполках "Беларусы ЗША. Разам лягчэй", "Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня", "Belarusians In Chicago" і "Belarusians in Washington DC Metro area".

***Ганна ШАРКО***



***Гутарка перад выступам у Вашыгтоне***



***Канцэрт у Чыкага***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Хто гуляе з агнём, дагуляецца да попелу

У Амэрыцы, а цяпер ужо ва ўсім сьвеце, вельмі папулярнымі сталі праграмы тыпу „pranks”, у якіх палохаюць, разыгрываюць або робяць нейкія іншыя “жарты”. Жартамі іх можна назваць умоўна, бо звычайна яны маюць даволі рэзкі і злосны характар. А помніце, як у дзяцінстве дарослыя вучылі, што нельга палохаць іншых, бо з гэтага могуць быць самыя дрэнныя наступствы? У нашай культуры не прынята палохаць, бо дзіця можа пачаць заікацца, мачыцца, баяцца, ці гэта нейкім іншым чынам дрэнна адаб’ецца на ягонай псыхіцы. У нас не прынята злосна жартаваць над іншымі, іронію і сарказм мы ахвотней скіроўваем на саміх сябе. У нейкім сэнсе нашае выхаваньне несумяшчальнае з сучасным сьветам, і добра, калі чалавек гэта разумее і робіць з гэтага сваю перавагу, а не недахоп.

Калі дзіця, што натуральна, спрабавала разыграць дарослых, тыя стараліся апавесьці павучальную казку пра зайца, які без патрэбы клікаў на дапамогу да часу, пакуль ніхто яму ўжо ня верыў. А калі зьявілася сапраўдная пагроза, то ніхто ўжо на ягоныя заклікі не рэагаваў. Гэтак заяц зрабіўся абедам для ваўка. Ну, пэрсанажы маглі быць іншыя, але навука збольшага зразумелая, адна і тая ж – не пляці абы чаго (не кажы дурнога), не дурніся (не рабі дурнога) і не выранджайся (ня строй дурнога).




А што зрабілася з нашым маладымі матулямі, якія, падхапіўшы новыя тэндэнцыі, тут жа пасьля родаў запампоўваюць у сацыяльныя сеткі фатаздымкі сваіх дзяцей? Куды дзелася шматвекавая асьцярожнасьць у гэтай сфэры? Іхныя маткі і бабулі завязвалі на дзіцячай калысцы або вазку чырвоную стужку, рабілі іншыя практычныя захады, рытуалы і замовы, каб адагнаць дрэнны позірк, каб абараніць безабароннае стварэньне ад суроку. Ня раз чуў пра выпадкі, калі родная бабуля або цётка пазьбягала кантакту з малым, пакуль тое не падрасьце, не ўзмацуецца, каб, ня дай Бог, яму выпадкова не нашкодзіць няўдала прамоўленым словам, лішнім кампліментам, празьмерным ахканьнем і войканьнем. Цьху-цьху-цьху на цябе, дзіцятка... А цяпер малое трапляе на вочы ўсяго сьвету як на канвэер. Многія ўжо развучыліся берагчы сваё, згубілі тое, што было інстынктыўным і нават генэтычным.

У беларускай традыцыі ніколі не было ніякага дня дурня, між іншым, дня з найбольшай колькасьцю імяніньнікаў. У нас моладзь дурэла ня 1-га красавіка (Prima aprilis), у даўнейшы першы дзень года, а ў ноч на Купальле. І было гэта вясёлае, гарэзьлівае і “чаканае” шкодніцтва, як частка цэлага шэрагу рытуалаў. Без цкаваньня, лютасьці і тролінгу. Сам факт, што дзень жартаў у нас зьвязаны з днём каханьня, ужо гаворыць сам за сябе. Таму з агнём не жартуйце і вадзе ня верце.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

**А. Бабкоў** ....................60
**С. Барысенка** ................60
**В. Едзіовіч** ....................60
**Н. Лазоўская** ................60
**З. Мотуз** .......................60
**С. Мядзьведзеў** .............60
**В. Сьпеталюн** ................60
**А. Тараненка** ................60
**Ю. Шкода** ......................60
**А. Якубенка** ..................60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка** *Viktar Yedzinovich.*

*Паважаныя **А. Андрээў, А. Бабкоў, А. Касьцюк,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **11-га лютага 2017 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца, наведаўшы сайт* ***pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

**А. Бабкоў** ....................30
**К. Верабей** ...................30
**В. Едзіновіч** ..................30
**А. Курушка** ...................30
**З. Мотуз** .......................30
**С. Мядзьведзеў** .............30
**А. Пранцэвіч** .................30
**Л. і П. Рыжыя** ................30
**В. Сьпеталюн** ................30
**А. Тараненка** .................30
**Ю. Шкода** ......................30
**А. Якубенка** ..................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*
*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце **e-krama.com***